ТВАЁ СЛОВА, ЧЫТАЧ!

## Рэцэпт на даведку?

— Скажыце, калі ласка, алахол ёсць?
— Няма.
— А ундэвід?
— Даведак не даём. На ўсё патрэбен рэцэпт.

Сведкам такога кароткага дыялога я стаў нядаўна ў адной з аптэк нашага горада. Ад пачутага было не тое, што прыкра, а крыўдна. Але не паспеў, як кажуць, ацаніць сітуацыю, як у аптэку зайшоў пажылы чалавек і прад'явіў рэцэпт.
— У нас гэтага няма.
— Вы ж сказалі, што патрэбен рэцэпт, — уступіў я ў размову.
— Так, але я не сказала, што такое лякарства ёсць, — быў адказ.
— Вось табе і на,—заўважыў мужчына. — Дарэмна толькі ногі біў.

І мне стала вельмі шкада хворага чалавека.

Дэфіцыт на тавары, у тым ліку і на медыкаменты, у наш час ні для каго не сакрэт. Але дэфіцыт на даведку? Што гэта? Яшчэ адна грымаса яго?..

**Рыгор ЯЎСЕЕЎ.**

г. Слуцк.

## Калі падумалі пра людзей

У апошнія гады ніхто з нас, пакупнікоў, практычна не меў ніякай магчымасці набыць у магазіне хоць бы кілаграм грэчкі. Справа гэта лічылася і лічыцца зараз невырашальнай...

А вось у калгасе імя Фрунзе, што ў Чэрвеньскім раёне, самі пачалі вырошчваць грэчку. Напрыклад, летась яна займала 70 гектараў, і з кожнага атрымалі звыш 10 цэнтнераў высакаякаснага зерня. Неабходную колькасць пакінулі на насенне, а астатняе выкарысталі на ўласныя патрэбы.

Сёння пакаштаваць смачную грэцкую кашу можа ў калгасе кожная сям'я. Паспытае яе і той, хто завітае ў калгасную сталоўку.

У сярэднім па 5—7 кілаграмаў круп на кожнага члена сям'і прадала гаспадарка. Да таго ж, па цане ўсяго тры рублі за кілаграм, што на сённяшні дзень даволі танна.

Апрача грэчкі, кіраўніцтва калгаса забяспечыла сваіх працаўнікоў цукрам, ячнымі крупамі, алеем, мёдам...

Улічваючы павальны дэфіцыт у наш цяжкі час, гэта для вяскоўцаў хоць нейкая палёгка. І таму, натуральна, яны выказваюць словы ўдзячнасці за клопаты аб іх.

**Ф. АНЦЫПІРОВІЧ.**

в. Чарнаградзь,
Чэрвеньскі раён.

## Чаму не павысіць кватэрную плату?..

Ужо неаднаразова павышаліся цэны на прадукты харчавання, прамтавары, усе віды паслуг, а вось чамусьці ні разу не была павышана плата за пражыванне ў дзяржаўных кватэрах.

Відаць, гэтае пытанне нашы выбраннікі народа і міністры выпусцілі з-пад увагі. А гэта ж можа быць адным з выхадаў з крызісу.

Каб квартплата ўзрасла, скажам, у 10 разоў, а за лішнюю плошчу—яшчэ разы ў два, то, думаю, вызвалілася б шмат кватэр. І не было б такога ажыятажу на атрыманне дзяржаўнага жылля. асабліва несумленным шляхам.

Вядома, для мнагадзетных сем'яў, адзінокіх пенсіянераў і іншых маламаёмных катэгорый насельніцтва можна было б і, безумоўна, трэба, пакінуць ранейшую плату.

Я, напрыклад, таксама пенсіянерка, жыву разам з дачкой, але лічу, што ў маім выпадку льгот быць не можа.

Спадзяюся, што гэта пытанне будзе закранута ў вашай газеце і прачытаю выступленні дэпутатаў наконт гэтага.

**П. ПАЛЯКОВА,**
**пенсіянерка.**

г. Віцебск.

**АД РЭДАКЦЫІ: Пытанне, якое ўзняла ў сваім пісьме наша чытачка Праскоўя Іванаўна Палякова з Віцебска, датычыцца літаральна кожнага з нас і не такое яно простае, як гэта можа здацца на першы погляд.**

**Запрашаем выказацца на гэту актуальную і ў той жа час далікатную тэму не толькі народных дэпутатаў, а ўсіх чытачоў газеты. Чакаем пісьмаў з канкрэтнымі меркаваннямі, прапановамі. Хто просіць слова?**

## Колькі чалавеку зямлі трэба

**Граф Талстой адказаў на гэтае пытанне, як мы памятаем, зусім адназначна: каб хапіла засыпаць труну. Ну, чалавек ён быў, канечне, арыгінальны і вельмі супярэчлівы, мог сабе такое дазволіць. Але гэта больш у плане этычным, біблейскім, калі хочаце. У звычайным жыцці ён усё ж такі быў буйным землеўладальнікам. У адрозненне ад нас. Таму: колькі чалавеку зямлі трэба — нас такі хвалюе. Ды і наогул, што ёсць і будзе з зямлёй (а значыць, і з намі)? А яшчэ больш цікава: зямельная рэформа — гэта проста словазлучэнне, якое часта бывае ў карыстанні, ці што іншае? Мы не чакаем канчатковых адказаў на асноўныя пытанні ад прэзідэнта Беларускага сялянскага саюза, фермера, нядаўна абранага на пасаду, Мікалая ГАЎРЫЛЕНКІ, з якім сёння гутарым, але зразумець, куды паварочвае рэформа, спадзяёмся, ён нам дапаможа.**

**— Мікалай Васільевіч, мы з вамі сядзелі побач на нядаўнім пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета, які абмяркоўваў першым пунктам парадку дня ход зямельнай рэформы. У мяне, прызнаюся, было не самае прыемнае пачуццё: тое ж было паўгода, год назад. Тыя ж людзі, тыя ж гутаркі, нават інтанацыі не змяніліся. Цікава параўнаць уражанні...**

— Мяне ўразіла: абмяркоўваецца адно з нямногіх цэнтральных пытанняў, а ў зале шум, мякка кажучы, няўвага. Балюча. Сапраўды нічога новага. Устае член Прэзідыума і гаворыць на поўным сур'ёзе: калі фермеру даць у Мінскай вобласці 20 гектараў зямлі, то вось столькі дачнікаў не атрымаюць участкі. Няўжо не разумеюць: дачы, дачнікі не пракормяць нас! Вядома, і гэта патрэбна, але галоўнае — таварная гаспадарка.

**— А мо як раз разумеюць? Не дапускаеце такі варыянт?**

— Магчыма, і так. Маўляў, давайце гаварыць аб дачах, садовых таварыствах, а аб фермерах не будзем. Не трэба. Нібыта праблемы няма. Ёсць урэшце, пастановы, рашэнні, яны, магчыма, выконваюцца не вельмі добра, але мы вось узмоцнім работу, удасканалім, палепшым і г. д. Разумееце, галоўнае — сказаць.

**— А потым?**

— А потым усё спускаецца на ніжэйшы ўзровень, у сельрайсавет. Скажам, вы дваццаць разоў абдумалі і вырашылі стаць фермерам. Пішаце заяву, несяце ў сельсавет, там яе рэгіструюць і адсылаюць у раён. Таму што сельсавет зямлі вам не дасць — гэта прэрагатыва раённай улады. Заяву адсылаюць, а следам — званок: вы ж там глядзіце, не давайце, бо гэты Іваноў —вось такі і такі, і наогул, чалавек не наш. Будзьце ўпэўнены: званок не забудуць, і вы папаходзіце па кабінетах не адзін месяц, здзіўляючыся — у чым справа? А справа ў тым, што аграрны дзеяч Васіль Міронавіч Падаляка (Радзіма павінна ведаць сваіх «герояў») прыдумаў вельмі хітры парадак, калі з просьбай аб надзяленні зямлёй чалавек павінен звяртацца ў адну інстанцыю, а рашаць — даць ці не — павінна другая. Вельмі зручна, і Бог ведае, з каго спытаць.

**— Даўно вядома роля мясцовай бюракратыі як выдатнага інтэрпрэтатара вышэйшых загадаў. Але ўрад, вдаецца, вельмі гучна заявіў аб сваёй рэфарматарскай накіраванасці.**

— Вы так думаеце? Тады растлумачце, калі ласка, сэнс праекта Закона аб уласнасці на зямлю, народжаны ў нетрах Саўміна. У ім зямлю мяркуецца аб'явіць калектыўна-долевай уласнасцю. Гэта значыць, што кожны жадаючы (мяркуецца — з сельскай мясцовасці) можа атрымаць свой кавалак зямлі. Пяць, ці сем, ці шэсць гектараў — як вызначаць. Народ будзе задаволены? Безумоўна. Але што ён будзе рабіць з зямлёй? Навошта яна пенсіянеру, сельскаму ўрачу, рабочаму? У прынцыпе, можна пабудаваць хату, калі дазволяць сродкі. А сеяць хлеб на ёй рабочы не будзе і жывёлу вырошчваць таксама. Гэта не яго справа, гэта справа фермера. А яму зямлю даць не выпадае. У Саўміне кажуць: а чаму калгаснікі не могуць мець прыватную зямлю? Калі ласка, няхай маюць. Толькі не бясплатна — яе, зямлю, трэба купіць у дзяржавы, а не ў калгаса. Фермеры адназначна супраць бясплатнай раздачы зямлі. Ёсць грошы — купляй, няма — ідзі ў Зямельны банк, пазычай — потым купляй. Але ў абодвух выпадках ты моцна падумаеш, ці варта такі хамут надзяваць на шыю, калі няма ведаў і самыя цьмяныя ўяўленні аб будучым. Значыць, купіць той, хто можа працаваць. А акадэмік няхай рухае наперад навуку, у кожнага ў жыцці свая задача.

**— На пасяджэнні Прэзідыума асцярожненька так гаварылася аб рэарганізацыі стратных гаспадарак.**

— Вось іменна—асцярожненька. Не, вы не знойдзеце ў маёй асобе прыхільніка разгону калгасаў. Як раз я — працаўнік гэтага. Мне здаецца, настаў час кампрамісаў, бо аграрная, так бы мовіць, вайна зараз надзвычай абвастраецца. А нас штучна сутыкаюць ілбамі з калгасамі. Ёсць розныя формы ўласнасці, калі ласка, давайце суіснаваць. Можна, вядома, распусціць калгасы. Але куды людзей? Зараз не больш 10 працэнтаў сельскіх жыхароў гатовы працаваць самастойна. А астатнія? Можа, лепш пачынаць з малога? Дапусцім, прыватызаваць майстэрні, збожжаток, ферму. Мы зможам тады знайсці агульную мову праз узаемны інтарэс

**— Мне здаецца, вы крыху летуценнік. Гавару так, бо на ўвазе наяўнасць адміністрацыйнай «галоўкі»: старшынь, спецыялістаў, брыгадзіраў.**

— Былы першы сакратар Смалявіцкага райкома Лемеш узяў 80 гектараў, мяркуе ўступаць у наш саюз. Галоўныя энергетык, эканаміст і аграном з калгаса «Ленінскі прызыў» Шумілінскага раёна ўзялі па 50 гектараў. Зараз, прабачце, за чаркай кажуць: Божа, чым мы раней займаліся? Дырэктар саўгаса з Верхнядзвінскага раёна — дырэктар! — таксама фермер цяпер. Скробаў яго прозвішча. Так што людзі разабраліся, што да чаго.

**— Застаюся на сваім пункце погляду: прыватныя выпадкі толькі падкрэсліваюць агульную тэндэнцыю — агракратыя спрабуе сябе ратаваць. Але вернемся да фермераў.**

— Прыбалты нам кажуць: нам бы такую матэрыяльна-тэхнічную базу. Сапраўды, давайце палічым: МТЗ, «Гомсельмаш», «Бабруйскфермаш», «Магілёўсельмаш», «Лідсельмаш». Столькі заводаў, а тэхнікі няма. Няма для фермераў. Зараз цяжка высветліць, колькі нашых трактароў, інвентару апынулася ў фермераў Балтыі, але, будзьце ўпэўнены, час яны марна не гублялі. Якраз тады, калі ўсё было танным. А мы што рабілі? Спрачаліся: фермер-капіталіст ці не, падрываюцца асновы ці не. Даспрачаліся, што трактар не купіць цэламу прадпрыемству, не тое што аднаму фермеру. Цяпер фінансавы бок. Расія летась выдзеліла фермерам мільярд рублёў — лік гаспадарак там ідзе ўжо на дзесяткі тысяч. У Латвіі з бюджэту фермерам аддалі 102, у Эстоніі — 25, у Літве — 73 мільёны рублёў. Вынік: у Прыбалтыцы, агульная плошча якой прыблізна роўная Беларусі, 30 тысяч прыватных гаспадарак, у нас — 777. У адпаведнасці з пастановай Саўміна створаны фонд крэдытавання фермераў. З 200 мільёнаў выкарыстана толькі 8. Летась жа пачаў функцыяніраваць фонд матэрыяльнай падтрымкі фермераў. Праз яго размеркавана 143 трактары «МТЗ» і каля 60 — «Т-25».

**— Думаю, не. Справы дастаткова сумныя. Я іх праецырую ўсё на тое ж пасяджэнне Прэзідыума і, шчыра кажучы, зусім не разумею бязмежнага спакою некаторых таварышаў. Міжволі закрадваюцца самыя розныя падазрэнні. Дарэчы, паводле маіх даных, зараз актыўна фарміруецца старшынёўская фронда С. С. Шушкевічу. Гаварыць аб нейкім арганізаваным выступленні, канешне, рана. Але сам факт гаворыць аб многім, не ўсё так проста. Станіславу Станіслававічу не могуць дараваць яго выказвання: «Калгасна-саўгасная сістэма нараджала абібокаў».**

— А вось гэта праўда, хоць і крыўдная. Але я зноў гавару: людзей да рынку трэба рыхтаваць. Калі лайдак ці п'яніца не стане нікому патрэбны, тады ён задумаецца: працаваць ці працягваць у тым жа духу. У калгас жа лайдак упісваецца, так бы мовіць, арганічна. Я зноў жа падкрэслю: мы не аб'яўляем калгасу вайну, але дайце жыць і нам. Давайце дыскуціраваць на полі, на ферме, на рынку, у рэшце рэшт. Некаму гэта непажадана, бо, падазраваю, вынік падобнай дыскусіі прадвызначаны. А калі няма фермера, то з кім і спаборнічаць?

**— І калгас аўтаматычна даказвае сваю «эфектыўнасць». Ёсць чалавек, ёсць праблема, няма... ну, вы ведаеце...**

— Іменна. Таму і не спяшаюцца чыноўнікі. Дапусцім, «выбілі», «вырвалі» вы зямлю. Яшчэ больш часу зойме атрыманне дзяржаўнага акта на валоданне, без яго банк не дасць пазыкі. І без гаранта таксама не дасць. А хто гарант? Калгас? Ды ніколі, толькі як выключэнне! А далей: тэхніка, гаручае, будаўнічыя матэрыялы, сеялкі, плугі і г. д. А ў першую чаргу ўсё гэта — калгасу. Фермер — мішэнь, па якой стральбу вядуць вопытныя паляўнічыя і з розных бакоў.

**Гутарыў**
**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

ЛІСТКІ ЗАПІСНЫХ КНІЖАК

## АБАВЯЗАК

Гадоў пятнаццаць таму вычытаў у Дастаеўскага: «Народ наш нищ и смерд, каким он был всегда, и не может иметь ни лица, ни идеи. Вся история народа нашего есть абсурд...»

Тады я вельмі балюча ўспрыняў такое абвінавачанне — фактычна ўсіх нас, усходніх славян. Цяпер ужо інакш стаўлюся да тых, канечне ж, балючых і для класіка слоў. Сапраўды, і гісторыя XX стагоддзя паказвае, што ў былых Расійскай імперыі і СССР адбываюцца незразумелыя дзівосы. Мала, што на іх абрынуліся дзве сусветныя вайны з незлічонымі ахвярамі і стратамі, дык да гэтага іменна тут адбываюцца два гіганцкія пераломныя і спусташальныя эксперыменты: па будаўніцтву сацыялізму-камунізму (1917—1984) і па ўдасканаленню ці згортванню яго (1985—...). Колькі самаахвярнасці і гераізму, слёз і крыві, спадаў і пад'ёмаў, колькі, здавалася, поспехаў і перамог, заклікаў ісці за намі ў светлую будучыню, але... вось здымаем шапку і жабруем! Пры нашых прасторах, багацці, спрыце і ўмельстве!

Што, доля наша вечная—абсурд?

***

Сёння нельга не здзіўляцца: як, скажам, на X з'ездзе РКП(б) 717 галоў з рашаючым голасам ад імя 732.521 члена партыі не ўцямілі будучай удушальнай пагрозы ад прапхнутай Леніным рэзалюцыі «Аб адзінстве партыі»? Альбо, да слова, чаму не насцярожыліся дэлегаты XI з'езда, калі з вуснаў кіруючага эшалона злавесна прагучаў прыкладна такі тэзіс: дзяржава — гэта рабочыя, гэта—перадавая частка рабочых, гэта —авангард, гэта—мы?!

Няўжо лепшыя сілы партыі не адчулі: знішчэнне іншадумства і чалавечага «я», усталяванне, з аднаго боку, пакоры, а з другога—выключнасці і ўседазволенасці жменькі кіруючага апарату вызваляюць яго ад сапраўднай адказнасці перад краінай і народамі, перад гісторыяй, перад укладам жыцця, культурай і духоўнасцю, у рэшце рэшт перад імі, партыйцамі? Ці малапісьменныя партыйныя масы былі асляплены ідэяй і барацьбой, глыбока не зразумелі замаскіраваных хадоў разумовай эліты, якая, маўляў, не проста дзейнічала, а выконвала сваю місію ад імя самога камуністычнага бога — Маркса?

***

Для мяне была і застаецца загадкай: ацалелы і ўзвышаны да Бога з усёй ленінскай гвардыі Сталін 1) свядома па-злачыннаму вёў яе лінію? 2) паазіяцку пераседзеў, перахітрыў, знішчыў яе і падрыхтаваў нам «мужыка» Хрушчова? 3) ці па непазбежнай дыялектыцы міжволі падвёў краіну, партыю і сацыялізм да непасільных рэформ? Альбо ёсць яшчэ чацвёртае ды пятае?

***

Маркс: «Дзяржава калечыць сама сябе, калі яна робіць з грамадзяніна злачынцу».

Як цяпер ведаем, марксісты-ленінцы спачатку ўзвялі ў ранг злачынцаў цара і ягоную апору, пазней — сваіх апанентаў і былых саюзнікаў, а яшчэ пазней—дзесяткі мільёнаў з народа і многіх са сваёй кагорты. Ёсць думка, што ў страшны лік «ворагаў народа» трапілі не толькі зламыснікі, але і генафонд краіны. Гэтыя «зэкі», фактычна савецкія рабы, у жудасных умовах—без сям'і, сяброў і сваёй любімай справы, без утульнага жылля, школ, бальніц і г. д.—узводзілі «буйнейшыя сацыялістычныя будоўлі».

Народная прымаўка кажа: «Як гукнеш—так і адгукнецца». Мала таго, што ўзведзенае пад ружжом, са слязамі і крывёй, узведзенае кіркай, рыдлёўкай і тачкай было не зусім трывалым і гуманным, дык яшчэ рана ці позна павярнулася вялікай бядой. Адтуль, з турмаў і лагераў, хлынула на волю, запаланіла ў прынцыпе падарваны ўжо народны арганізм скрыўленая псіхалогія: «залажыць», «сука», «шасцёрка», «прыдурак», «начальнік» («ты начальнік—я дурань, я начальнік—ты дурань»), «раскінуць чарнуху», «цямніць», «туфта», «шарашкіна кантора», «пахан», «бугор», «цягнуць гуму», «даюць—бяры, б'юць — бяжы», «не рабі сёння тое, што можна зрабіць заўтра», «а мне ўсё да фені» і г. д., і да т. п.

Глыбока памыляецца той, хто лічыць усё гэта звычайным дасціпным «зэкаўскім» фальклорам. Не, тут—свой лад, свая філасофія жыцця і дзейнасці, яркая карціна маральнага калецтва адной шостай часткі зямнога шара.

***

Цяпер ужо не толькі ленінскія «скарпіёны», але і сам Ільіч многімі залучаны ў зборышча сатанінцаў.

Але вось парадокс: жменька бальшавікоў-ленінцаў здолела зрабіць дзяржаўны пераварот, захапіць уладу, асядлаць грамадства і навязаць яму сваю волю, а вось 18-мільённая армія «нічым не заплямленых» членаў КПСС, маючы ўсе механізмы і рычагі непадзельнай улады, не толькі не здолела перабудаваць «казарменны» сацыялізм на «дэмакратычны», але...

У чым жа прычына паражэння такой агромністай сілы? Няўжо толькі ў тым, што яе галоўнае камандаванне складалася не з самых разумных, сумленных і смелых, а з хітрых і паслужлівых, няздольных да самастойнай дзейнасці, а то і маральна разбэшчаных, літаральна прыкаваных да свайго сытнага карыта? А астатнія, «непрыкарытныя» члены КПСС? Ведалі яны пасапраўднаму, што такое сацыялізм-камунізм, маглі па-сапраўднаму працаваць дзеля гэтай ідэі? Ці, можа, такім вялікім гуртам адмовіліся ад яе?

Наш пэўны вопыт, а таксама пэўны вопыт многіх краін свету паказвае: шматлікія сацыялістычна - камуністычныя ідэі, калі яны ажыццяўляюцца не гвалтам, а па-людску, вельмі і вельмі прыдатныя. Думаецца, таго, хто будзе не столькі баяць байкі пра суцэльнае святое мінулае, а дзелавіта распрацоўваць тэорыю сапраўды дэмакратычнага і гуманнага сацыялізму, чакае будучыня.

***

«Старэйшы брат»... Гэты тэзіс, як разумею, сталінскай закваскі: па-першае, каб улагодзіць некаторых з велікарускага асяроддзя, па-другое, каб пры яго дапамозе лягчэй падмяць «меншых», альбо «малодшых», і ўрэшце каб на самай справе спрытней трымаць у руках вялікі рускі народ.

Але нельга не задумацца як след: а што ж гэта такое—Расія, велікарусы? З імі ж цесна звязаны і наш лёс.

Хочаш ці не хочаш, але мы маем справу з феноменам. Здарылася так, што лёс даў Расіі шанц не толькі ўзнікнуць, сцвердзіцца, але і ўвесь час пашырацца — туды, куды бачылі з-пад рукі «асілкі» альбо «землепраходцы» тыпу Ермака, сілай і са згоды далучаючы да сябе неабсяжныя прасторы ды дзесяткі іншых, часам зусім чужародных народаў і па ходу пералепліваючы іх на свой лад. «А ну, чертенок, говори по-русски!»

Агромністыя прасторы, гарачыня і люты мароз, мяцеліцы; багацце, што літаральна пад нагамі; працяглыя і не ўсюды ўпарадкаваныя дарогі, на якіх не толькі нязручнасці, але і перахоп дыху альбо, мякка кажучы, розныя свавольствы; вабнасць чаканага агеньчыка, шынкі, гулянкі, песні, бойкі; старанная праца і спадзяванне на славутае «авось»; знясільваючая цяга да праўды і сумленнасці; бясконцыя войны, перамогі і святы; самаахвярнасць, гераізм і апатыя; вялікія поспехі ў навуцы і культуры; фанабэрыя, душэўныя пакуты ад сваёй велічы і незразумелай місіі; самаўніжэнне і нізкапаклонства перад Еўропай... Усё гэта і іншае не магло не выхаваць фенаменальны, часам непрадказальны характар. На яго няпроста накінуць аброць, змайстраваную па мерках Заходняй Еўропы, дзе многае іншае абмежавана ў памерах, не столькі пачуццёвае, колькі рацыяналістычнае ды ашчаднае.

Не выпадкова вялікі рэфарматар расійскага быцця Пётр Першы прышчэпліваў заходнія мадэлі сілай і гвалтам (гэтак жа пазней дзейнічалі і Ленін са Сталіным). Не выпадкова і тое, што нават сам народ, адчуваючы сваю «шырыню душы», асцерагаецца «смуты» і наклікае на сябе «жалезную руку», «гаспадара», даючы магчымасць умацавацца розным культам. Нарэшце, зусім не выпадкова ў свой час Маркс у лісце да В. Засуліч зазначаў: яго тэорыі на аснове Заходняй Еўропы і для яе, бо ў Расіі, падкрэсліваў, усё іншае. Але...

...Я і з вялікай трывогай, і з вялікай надзеяй гляджу на нашага спакутаванага, ды ўсё ж багатага і здольнага суседа, які рана ці позна павінен акрыяць, стаць на ногі і зноў зірнуць удалеч з-пад рукі...

***

Леў Талстой: «Нельга змусіць розум разбіраць і высвятляць тое, чаго не хоча сэрца».

***

Дэпутаты «ад народа» ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь, да слова, асобныя кіраўнікі аграрных гаспадарак.

Люба слухаць, калі яны супраць «амбіцый», за «зберажэнне прыроды і зямлі, за лад ды кавалак хлеба для людзей», але, з другога боку, не можа не ўразіць іхняя агрэсіўнасць, катэгарычнасць і, выбачайце, чыста беларуская правінцыяльнасць і абмежаванасць. Да слова, Беларусь і яе народ яны гатовы бачыць без беларускага, як адно вялікае дагледжанае поле, як адну буйную наладжаную ферму з паслухмянай і больш-менш апранутай ды накормленай рабсілай пэўнага народнагаспадарчага рэгіёна. Клопат пра «ўсякую культуру» яны пакідаюць «на пасля», «калі пад'ядзім і апранёмся».

Не хочацца нікога абражаць, але ствараецца ўражанне: некаторым аграрыям (зрэшты, і кіраўнікам прамысловых прадпрыемстваў) варта найперш займацца сваёй канкрэтнай справай і не імкнуцца ў вялікую палітыку, дзе трэба іншы, шырэйшы, дзяржаўны, кругагляд. Тым больш, што вопыт цяперашніх перадавых і квітнеючых краін свету паказвае: там быў і ёсць аднолькавы клопат як пра цела, так і пра душу, і гэта неабходная зарука ўсеагульнага цывілізаванага поспеху.

***

Незалежнасць Беларусі... За яе, гэтую волю, у свой час паплаціліся жыццём, цкаваліся і пасля гвалтоўнай смерці лепшыя сыны народа — і тыя, хто ўтвараў БНР, і тыя, хто ладзіў БССР.

Цяпер гэтая незалежнасць літаральна звалілася з неба. Ды... не адзінкі, сотні і тысячы, а многія і многія, у тым ліку і нашы кіраўнікі, здаецца, разгубіліся, азіраюцца вакол ды абмацваюць позіркам нядаўні цэнтр: што рабіць? Як жыць без загадаў?

Цяжка, а то і страшна выціскаць са сваёй душы паслужлівага выканаўцу, ды няма вопыту адчуваць сябе, рэспубліку дзяржаўнымі. Нават ужо тое, што ў наш Вярхоўны Савет ніяк не можа ўвайсці гаспадыняй (а пакуль што толькі падчарыцай) беларуская мова, паказвае: у многіх няма элементарнага разумення, што гістарычная памяць, нацыянальныя каштоўнасці — адна з умоў сцвярджэння дзяржаўнасці, а сама дзяржаўнасць — не прыхамаць Зянона Пазьняка і яго прыхільнікаў, а жыццёвая патрэба кожнага развітога народа. Калі гэтага не разумець і не дабівацца, то гэта найпершая адзнака таго, што нацыя і яе сілы не зусім здаровыя. Лячэнне дзяржаўнасцю (агромністай каштоўнасцю, што выпрацавала чалавецтва) — надзейны паратунак ад пагібельнай для народа немачы.

***

«Как не любить Пушкина и Толстого?» — бывае, «б'е» хтосьці з велікарусаў і нашых русіфікаваных землячкоў, такім вось прыёмам робячы з цябе і ворага, і недаростка, а заадно каварна перакрываючы кісларод знямоганай беларускай мове і культуры.

Ніхто не мае права змушаць любіць Пушкіна і Талстога, гэта асабістая справа кожнага. Іншая рэч, што ты невысокай культуры, калі не паважаеш такіх вялікіх майстроў, як, скажам, Шэкспір, Гётэ, Міцкевіч, Шаўчэнка, Нізамі...

Калі сыходзіць з гэтых, высокакультурных, пазіцый, дык чаму сёй-той дазваляе сабе «культурна» абражаць нашых выдатных майстроў, мову, на якой яны тварылі? На гэта я чуў розныя адказы. Напрыклад: «А беларуская мова непрыгожая», «Я не ведаю вашай літаратуры і культуры, але я іх не люблю» і г. д.

Наконт прыгажосці мовы не варта спрачацца (лухта гэта, што з некалькіх тысяч моў у свеце Бог найменш усяго даў нашай, беларускай), а вось пра тое, што ў многіх нашых людзей адбілі не толькі печань, але і гістарычную памяць, зглумілі душу і змусілі грэбаваць сваім, а ўрэшце і не ведаць яго, мы гаварылі і будзем гаварыць.

Ёсць спадзяванне, што цяпер, у новых умовах, ужо не столькі Закон аб мовах, а шырокая народная свядомасць дасць належны штуршок для выйсця беларускай мовы і культуры з куткоў і хутароў на шырокі прастор.

Калегі па пяру, журналісты з радыё і тэлебачання, з цяперашніх шматлікіх рускамоўных выданняў, давайце шчыра, належным чынам шануючы здаровую нацыянальную канцэпцыю, паспрыяем гэтай справе! І найперш асабістым прыкладам!

***

Заўсёды і ва ўсім свеце найбольш у культуры дабіваўся той, хто не мадэліраваў з чужых узораў, а здолеў адчуць, перадаць многае са зместу і духу роднага народа. Нават больш: лепшае з гэтых мастацкіх рэчаў — народны дар і здабытак.

***

Як узнікае свядомае, высокаразвітое асяроддзе, а то нават і грамадства? Ты шчыры і сумленны, ён, я — такія ж, усе мы не здаліся, не схібілі, паказалі ўсё лепшае — глядзі, і ўзнікае, развіваецца яно, свядомае і высокаразвітое...

**Генрых ДАЛІДОВІЧ.**

1991.

Штогод каля чатырох тысяч медыцынскіх работнікаў сярэдняга звяна з усіх куткоў Беларусі на працягу некалькіх месяцаў праходзяць стажыроўку ў Мінскім вучылішчы павышэння кваліфікацыі. Тут яны маюць магчымасць больш дасканала вывучыць сваю справу, глыбей аваладаць многімі сакрэтамі сваёй адказнай і вельмі нялёгкай прафесіі.

**На здымках:** 1. Медыцынская сястра міласэрнасці Надзея Іванаўна **НІКІЦЕНКА** прыехала на стажыроўку з Калінкавіцкага раёна. 2. У класе клінічнай біяхіміі.

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

## КУЛЬТУРА І РЫНАК: ШЛЯХІ РАЗВІЦЦЯ

Катэгарычна сцвярджаць, што, акрамя праблемы высокіх цэн і пустых прылаўкаў, грамадства нічога не цікавіць, было б памылкова.

Гарачая размова, якая днямі адбылася ў Беларускім інстытуце праблем культуры, сведчыла пра тое, што і сёння не аб адзіным хлебе жывы чалавек.

Як адзначыла кіраўнік групы каардынацыі метадычных службаў інстытута М. Крыловіч, у кожнай вобласці знайшлося шмат прапаноў для сумеснай дзейнасці ў развіцці культуры — каб справа адраджэння нацыянальнай спадчыны паспяхова вырашалася. Так, у Брэсцкай, Гомельскай і Мінскай абласцях дамовіліся правесці навуковае даследаванне і распрацаваць праграму адраджэння традыцыйнай мастацкай культуры Палесся, на Гродзеншчыне — вывучыць асаблівасці этнакультурнай спадчыны. Агульныя намаганні будуць накіраваны на правядзенне экспедыцый па вывучэнню традыцыйнай мастацкай культуры вёскі ў Браслаўскім, Пастаўскім і Міёрскім раёнах Віцебскай вобласці, абагульненне цікавага вопыту работы органаў і ўстаноў культуры, метадычнае забеспячэнне, правядзенне традыцыйных свят, абрадаў, адраджэнне рамёстваў, аказанне творчай дапамогі калектывам мастацкай самадзейнасці.

Не проста выжыць і захаваць нацыянальную культурную спадчыну ў такі складаны час камерцыі і рыначных адносін.

Пагроза знішчэння навісла над многімі сельскімі ўстановамі культуры. Прадпрыемствы і гаспадаркі, якія раней трымалі на сваім бюджэце клубы, музеі, калектывы мастацкай самадзейнасці, сёння адмаўляюць ім у матэрыяльнай падтрымцы. Мясцовыя Саветы ахапіла эпідэмія рэарганізацыі ўстаноў культуры, неразумнага іх перапрафіліравання.

**Тамара КАРОЛЬ.**

